ГРОДНА
№20 (549),
8 лістапада 2020

# СЛОВА ЖЫЦЦЯ

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Слуга Божай міласэрнасці



grodnensis.by

*Марыю прыгожа называюць Каралевай Неба, Цудоўнай Маці, Суцяшальніцай засмучаных, але найперш Маці Міласэрнасці.*

*на старонцы* 2

## У гродзенскай катэдры аднавілі алтар св. Юды Тадэвуша



grodnensis.by

*Дзякуючы намаганням пробашча кс. каноніка Яна Кучынскага касцёл з кожным годам усё прыгажэе.*

*на старонцы* 4

## Дапамога чыстцовым душам



pixabay.com

*Існуе малітва, прамаўляючы якую, можна выбавіць тысячу душ.*

*на старонцы* 7

# ЁН НЕ ЎБОГІ, КАЛІ ЁН У БОГА




cnl.news

*Скульптура "Бяздомны Езус" прадстаўлена папе Францішку падчас аўдыенцыі на плошчы св. Пятра ў Ватыкане ў лістападзе 2013 г.*

**"Маўклівы крык шматлікіх бедных павінен падштурхнуць Божы народ быць на перадавой, заўсёды і паўсюль, каб даваць ім голас, бараніць і салідарызавацца з імі перад абліччам розных форм крывадушнасці і шматлікіх няспоўненых абяцанняў", – адзначыў папа Францішак у сёлетнім пасланні на Сусветны дзень убогіх.**

*на старонцы* 3



archwwa.pl

*С. Ванда Банішэўская ў маладосці*

# СТАРТУЕ БЕАТЫФІКАЦЫЙНЫ ПРАЦЭС МАНАХІНІ З ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

**Варшаўская архідыяцэзія распачынае беатыфікацыйны працэс с. Ванды Банішэўскай з Кангрэгацыі Сясцёр ад Анёлаў, містычкі і стыгматычкі. Першая ўрачыстая сесія запланавана на 9 лістапада бягучага года ў капліцы Дома варшаўскіх арцыбіскупаў.**

*на старонцы* 5

СЛОВА РЭДАКТАРА

# *Дарагія Чытачы!*

*Напэўна, ужо прызвычаіліся, што на кожным кроку рэклама заклікае нас атрымліваць асалоду ад жыцця, не скупіцца і набываць рэчы, "распрацаваныя на аснове найноўшых тэхналогій". Сённяшняя цывілізацыя – гэта, у пэўным сэнсе, цывілізацыя валодання і навізны. Такім чынам, дарога да сквапнасці ўжо зусім блізкая, а пасланне Езуса "Глядзіце, сцеражыцеся ўсялякай прагнасці" (Лк 12, 15) – вельмі адназначнае.*

*Зразумела, усе гэтыя матэрыяльныя даброты – для нас. Справа не ў тым, што павінны ад іх цалкам адмовіцца. Бог не стварыў нас для жыцця ў змярцвенні. Ён хоча, каб мы цешыліся жыццём, паўнатой гэтага жыцця. Але што з таго, калі будзем мець выдатны камп'ютэр, добры веласіпед ці сучасны аўтамабіль, калі не будзем мець сапраўды важнага ў Божых вачах? Адно можна сказаць напэўна: калі будзем прытрымлівацца каштоўнасцей праўды і дабра, то зробім добрую і правільную інвестыцыю. Тады станем багатыя перад Богам, а Ён прагне менавіта гэтага. Адсюль і Яго план, значна больш прадуманы, чым можа здавацца.*

*Пан даў нам даволі добрыя "інструменты" для барацьбы з прагнасцю: мудрасць, розум, раду і малітву. Маем і яшчэ адзін цудоўны дар ад Творцы: асвячальную ласку, якая змяняе, развівае і ўмацоўвае. Калі будзем клапаціцца пра тое, каб не страціць гэты дар, нам будзе лягчэй ісці за Езусам і быць багатымі ў Божых вачах. Таму засяродзім увагу на духоўных каштоўнасцях і заўсёды будзем імкнуцца да таго, што ў вышынях, а не да зямнога (параўн. Кал 3, 1–2).*



*кс. Jerzy Martinowicz*

КАЛЯНДАР

**11 лістапада**

***Успамін св. Марціна Турскага, біскупа.***

*Св. Марцін нарадзіўся ў Паноніі (сучасная Венгрыя) каля 316 года. У 15 гадоў паступіў на вайсковую службу. Прыняўшы хрост, пакінуў войска і заснаваў кляштар у Лігжэ. Вёў там манаскае жыццё пад кіраўніцтвам св. Гілярыя. З часам стаў святаром і біскупам Тура. Быў добрым пастырам свайго люду, заснаваў кляштары, павучаў духавенства, аддана абвяшчаў Евангелле.*

*Святы з'яўляецца заступнікам арміі, рыцараў, салдатаў, падарожнікаў, бежанцаў, жабракоў, пастыраў, ткачоў, вінаградараў, гарбароў, гатэльераў і многіх іншых.*

**12 лістапада**

***Успамін бл. Язафата, біскупа і мучаніка.***

*Бл. Язафат нарадзіўся ва Уладзіміры-Валынскім каля 1580 года ў праваслаўнай сям'і. Прыняў каталіцкую веру і ўступіў у базыльянскі ордэн. З цягам часу стаў святаром і арцыбіскупам Полацкім. Разгарнуў заўзятую місіянерскую працу. Загінуў мучаніцкай смерцю ў Віцебску 12 лістапада 1623 года.*

*Праваслаўныя, уражаныя маштабамі навяртанняў людзей, якія адбыліся з-за яго, назвалі блаславёнага "душахватам" – лаўцом душ. З'яўляецца адным з апекуноў Віцебскай дыяцэзіі.*

**16 лістапада**

***Урачыстасць Найсвяцейшай Панны Марыі Вастрабрамскай, Маці Міласэрнасці – галоўнай заступніцы дыяцэзіі.***

*Выяву Найсвяцейшай Панны Марыі ўшаноўваюць з XVI стагоддзя ў Вострай Браме ў Вільнюсе. Калі абраз быў знішчаны, яго замянілі новым, які праславіўся ласкамі. Каранаваны ў 1927 годзе.*

*Пасля стварэння Гродзенскай дыяцэзіі ў 1991 годзе Найсвяцейшая Панна Марыя з Вострай Брамы, Маці Міласэрнасці, была абрана галоўнай апякункай мясцовага Касцёла.*

**20 лістапада**

***Успамін св. Рафала Каліноўскага, святара і манаха.***

*Падчас вучобы св. Рафал меў крызіс веры і перастаў прыступаць да сакрамантаў. Аднак праз шмат гадоў перажыў навяртанне пад уплывам чытання Споведзі св. Аўгусціна. Пасля Студзеньскага паўстання быў сасланы на 10 гадоў у Сібір. Маючы 42 гады, уступіў у ордэн кармэлітаў босых, дзе ўжо як святар і спаведнік праяўляў шмат разумення да людзей, раздзіраемых сумненнямі і ўзбунтаваных супраць Бога. Памёр у арэоле святасці ў кляштары ў Вадавіцах (Польшча) у 1907 годзе.*

**21 лістапада**

***Успамін Ахвяравання Найсвяцейшай Панны Марыі.***

*Праз устанаўленне гэтага ўспаміну Касцёл хацеў нагадаць асноўную бясспрэчную ісціну, што Марыя была прызначана для выканання вялікай збаўчай місіі. Абраная Божым Провідам у якасці Маці Збаўцы, Яна стала такім чынам ахвярай Нябеснаму Айцу.*

# СЛУГА БОЖАЙ МІЛАСЭРНАСЦІ

*працяг са с. 1*

**Маці Божай Міласэрнасці – Тая, якая дала свету Божага Сына і дае пастаянна, ведучы да Яго ўсіх людзей. Беззаганная Панна, разумеючы веліч ласкі, якую ўдзяліў Ёй Бог, пакорна прызнаецца ў словах, звернутых да св. Фаўстыны Кавальскай: "Я для вас Маці з неспасцігальнай Божай міласэрнасці" (Дз. 449).**

***Кс. Юрый Марціновіч***




*Пілігрымка ў Вільнюс з парафіі Сапоцкін, 2016 г.*

Найбольш поўна абгрунтаваў тытул Маці Міласэрнасці Святы Айцец Ян Павел ІІ у энцыкліцы "Dives in misericordia". Піша ў ёй, што Марыя з'яўляецца, у першую чаргу, Той, якая выключным чынам спазнала міласэрнасць, была захавана ад першароднага граху і надзелена паўнатой ласкі, каб стаць Маці Божага Сына. Панна з Назарэта пагадзілася ўключыць свае жыццёвыя амбіцыі ў Божы план, бо ведала, што такім чынам становіцца Слугой Божай міласэрнасці дзеля ратавання свету. Падчас Звеставання дала згоду, у Бэтлееме нарадзіла Божага Сына ў чалавечым целе і на працягу ўсяго жыцця ўдзельнічала ў адкрыцці Ім таямніцы Божай міласэрнасці, ажно да ахвяры, якую прынесла ля падножжа крыжа.

**У жыцці Марыі бачная моц Божай міласэрнасці, якая абараняе ад зла і дазваляе чалавеку дасягнуць паўнаты развіцця – святасці.**

Найсвяцейшая Маці – Тая, якая найбольш поўна разумее таямніцу міласэрнасці Пана. Ведае, колькі яна каштавала і якой вялікай з'яўляецца. Яна абвяшчае міласэрную любоў Бога з таго дня, як заспявала сваё "Магніфікат" на парозе дома сваячкі Альжбеты.

Марыя з'яўляецца Маці Міласэрнасці таксама таму, што дзякуючы Яе пасрэдніцтву вылiваецца ў свет Божая міласэрнасць у выглядзе разнастайных ласкаў. Як падкрэслівае ІІ Ватыканскі Сабор, "узнятая на Неба, Яна не спыніла збаўчае заданне, але праз сваё шматграннае заступніцтва пастаянна атрымлівае для нас дары вечнага збаўлення". Дзякуючы сваёй мацярынскай любові, Яна апекуецца ўсімі людзьмі, асабліва пілігрымуючымі і падвержанымі цяжкасцям і небяспекам, пакуль не будуць прыведзены на шчаслівую Радзіму.

Тытул Маці Міласэрнасці характарызуе Марыю як Тую, якая, спазнаўшы міласэрнасць выключным чынам ад укрыжаванага і ўваскрослага Сына, такім жа чынам заслугоўвае гэтай міласэрнасці на працягу ўсяго жыцця, і, перш за ўсё, ля падножжа крыжа Езуса. Абвяшчае яе і выпрошвае для ўсяго свету.

Аднак Марыя не затрымлівае наш погляд на сабе, але скіроўвае да Хрыста, перад якім сама схіляецца. Найсвяцейшая Маці прагне, каб цэнтрам увагі была Божая міласэрнасць, паўней за ўсё выяўленая ў Езусе, якая трывае "з пакалення ў пакаленне" (Лк 1, 50).

**Жыццё Найсвяцейшай Маці выразна паказвае, што мы жывём з Божай ласкі, што ўсё з'яўляецца дарам, усё з Яго міласэрнасці.**

Багародзіца з'яўляецца Маці Міласэрнасці для нас, для ўсёй Гродзенскай дыяцэзіі з часу яе заснавання ў 1991 годзе. У гэты няпросты час, калі ўвесь свет змагаецца з пандэміяй каранавіруса, Яна з'яўляецца для чалавецтва знакам вялікай надзеі.

Даверым Вастрабрамскай Панне свой лёс. Папросім Яе, каб ніколі не пераставала скіроўваць на нас свае міласэрныя вочы. Няхай нам заўсёды спадарожнічае асалода Яе позірку, каб маглі адкрываць радасць Божай пяшчоты.

# ЁН НЕ ЎБОГІ, КАЛІ ЁН У БОГА

працяг са с. 1

**Амаль 5 гадоў таму кс. Андрэй Бялаблоцкі знаходзіўся з місіяй у Паўднёвай Амерыцы, дзе ахвяраваў сваё служэнне бедным. Вярнуўшыся дадому, святар пачаў клапаціцца пра тутэйшых людзей, якія трапілі ў складаныя матэрыяльныя абставіны. У сённяшнім нумары "Слова Жыцця" кс. Андрэй распавядае пра асаблівасці евангелізацыі абяздоленых.**



*Ангеліна Марцішэўская*

***– Кс. Андрэй, Вы на працягу 3-ох месяцаў служылі сярод абяздоленых у Бразіліі. Распавядзіце, калі ласка, пра гэты досвед.***

– Я служыў у фавэле *(вялікая колькасць трушчоб з крайняй беднасцю і высокім узроўнем злачыннасці –* ***заўв. аўт.****)*. Гэта вельмі спецыфічнае месца. Калі там апынуўся ўпершыню, быў шакіраваны ўбачаным: пад нагамі смецце, ямы, хтосьці вылівае пад ногі адкіды. Паветра прасякнута непрыемным пахам. Хаты – дзе-нідзе з цэглы, але ў большасці пабудаваны з матэрыялаў, што трапілі пад руку на сметніку. Каб неяк весці свой быт, людзі крадуць электрычнасць і ваду ў дзяржавы: па ўсёй фавэле можна заўважыць шматлікія правады і трубы. І такім чынам суіснуць цэлыя сем'і: дарослыя, дзеці, старыя.

Місіянеры ў Паўднёвай Амерыцы маюць 3 формы служэння ўбогім: жыць як бедны, жыць побач з бедным, жыць для беднага. На фавэле місіянеры практыкуюць першы тып: жывуць у сціплай хатцы, куды за дапамогай звяртаецца кожны патрабуючы. І так павялося, што місіянеры на фавэле – гэта як у нас служба 101, 102, 103 і 104. Што б ні здарылася – прарвала трубу, захварэў, трэба дагледзець дзіця – усе бягуць да місіянераў. Раз на год яны таксама праводзяць генеральную ўборку ўсёй тэрыторыі трушчоб.

Чарговы акцэнт місіянеры робяць на працы з людзьмі. Напрыклад, вучаць дзяцей чытаць і пісаць, бо большасць з іх не ходзіць у школу. Арганізуюць розныя гульні, каб хлопцы і дзяўчаты мелі шчаслівы час дзяцінства. Чуваюць, каб яны таксама не трапілі пад уплыў бандытаў. Дарослых, у сваю чаргу, навучаюць розным карысным рэчам: шыць, гатаваць і г. д. У маёй практыцы быў выпадак, калі даглядаў за дзіцём дзяўчыны-падлетка, пакуль яна займалася ў школе. А калі вярталася, дапамагаў выконваць хатнія заданні.

Зразумела, місіянеры клапоцяцца пра духоўнае развіццё падапечных. Праводзяць катэхізацыю. Маюць капліčку, дзе адбываецца няспынная адарацыя. І, што цікава, згодна са сведчаннямі мясцовых жыхароў, калі пачалі адараваць Езуса Хрыста дзённа і ночна, на тэрыторыі фавэлы спыніліся забойствы.

***– Як Вы прымянілі сваю практыку ў Беларусі?***

– Я мару, каб у нашай краіне ўзнік дом для бяздомных. Пажадана пры парафіі. Гэта другі тып служэння, калі валанцёр жыве побач з убогім. Я быў у такім доме ў Бразіліі: людзі прыходзілі туды, пакідаючы вуліцу і дрэнныя звычкі. Мы разам ладзілі працу на агародзе ці ў сталярнай майстэрні. Разам бавілі вольны час: глядзелі фільмы ці гатавалі пасілкі. Разам маліліся. І я быў сведкам таго, як людзі змяняліся на вачах, нібы ажывалі, бо проста апынуліся ў прыязнай атмасферы. Калі ў нас знойдуцца вернікі і святары, якія б захацелі дапамагчы рэалізаваць такую задуму, можна было б згуртавацца і ўвасобіць яе ў жыццё. З блаславення біскупа, ахвяраванняў, рэкламы (і затым якаснай справаздачы) можна зрабіць шмат добрых рэчаў.

А калі казаць пра рэалізаваныя ідэі, то ўдалося зладзіць доўгатэрміновыя акцыі падтрымкі абяздоленых. Збіраліся з мясцовай моладдзю і шпацыравалі па горадзе, шукаючы бяздомных. Дзяліліся з імі пасілкам (звычайна бутэрбродамі і піражкамі), паілі гарбатай. І вялі з імі звычайную чалавечую гутарку: пыталіся пра блізкіх, праблемы. Моладзь спачатку саромелася, але пасля сама пераняла ініцыятыву.

Цяпер ужо ведаем імёны многіх, хто жыве на вуліцы. І яны ведаюць нас. У гэтым і ёсць сутнасць евангелізацыі абяздоленых: паказаць, што мы адкрытыя і хочам падзяліцца сваім часам. Людзі былі вельмі здзіўленыя, што чалавек XXI стагоддзя знайшоў хвіліну, каб удзяліць ім увагу. Увагу, якая ў выніку лячыла душы.

***– Здараюцца сітуацыі, калі аб дапамозе на вуліцы просіць нецвярозы чалавек. Як паводзіць сябе ў такіх выпадках, каб сапраўды дапамагчы, а не садзейнічаць яго алкагалізму?***

– Людзі з залежнасцямі – гэта людзі вельмі слабой волі. Звычайна прага да алкаголю настолькі вялікая, што яны часта забываюць паесці і могуць галадаць цягам некалькіх дзён. Калі нецвярозы просіць грошы, то даваць не трэба. Аднак прапанаваць купіць штосьці з прадуктаў варта, бо яго арганізм патрабуе падтрымкі.

Мы жывём у адным горадзе, і рана ці позна перасякаемся на яго вуліцах. Сёння гэты чалавек быў п'яны, а праз пэўны час можна сустрэць яго цвярозым. І гэта ўжо будзе нагода, каб спыніцца і спытацца: "Як тваё жыццё?". За праблемай алкагалізму заўсёды крыецца пэўная духоўная драма, якая справакавала залежнасць. І калі ты станеш побач, выслухаеш або распавядзеш штосьці, дакранешся да яго – радасці ў чалавека будзе куды больш, чым пасля чаркі. Таму ў якім бы стане чалавек не знаходзіўся, пажадана ўдзяліць яму ўвагу.

***– Сустрэўшы шмат людзей, якія трапілі ў цяжкія жыццёвыя абставіны, Вы, напэўна, чулі шмат гісторый іх лёсу. Падзяліцеся тым, што ўразіла.***

– Памятаю 2 выпадкі са сваёй місіі ў Бразіліі. Калі мы ў рамках служэння начавалі з бяздомнымі на вуліцы, я пазнаёміўся з пажылымі сужэнцамі, якія былі ў шлюбе больш за 40 гадоў. Звярнуўшы на гэта ўвагу, я спытаўся, дзе іх дзеці і чаму не клапоцяцца пра сваіх бацькоў. Сужэнцы адказалі, што дабравольна сышлі на вуліцу, каб не ўшчамляць дзяцей і ўнукаў. Дадалі, што месца ў доме не хапала, а на вуліцы заўсёды цёпла і ёсць валанцёры, якія час ад часу частуюць ежай.

Іншым разам мяне ўразілі ўжо маленькія бразільцы. Я правадзіў катэхезу ў месцы, дзе ўвогуле не было аніякіх умоў для навучання – абсалютная беднасць. Мы сядзелі проста на асфальце і праводзілі занятак. Я спытаўся, што смачнага прынесці ім наступным разам. Хлопцы і дзяўчаты папрасілі піражныя. Калі атрымалі пажаданае, з задавальненнем узяліся есці. Усе, акрамя аднаго хлопчыка. Ён сказаў, што дома ёсць малодшая сястра, і яна таксама хацела б пакаштаваць далікатэс.

***– Ці можна ў такім выпадку сцвярджаць, што ўбогія нас шмат чаму вучаць?***

– Канешне. Адразу ўзгадваю яшчэ адну гісторыю. Аднойчы дзяліў абед з бедным і меў тады вельмі дрэнны настрой. Чалавек заўважыў гэта і ўсімі спосабамі імкнуўся мяне развесяліць. Сам ён пры гэтым меў раны на целе (пэўную хваробу), але ўсміхаўся і дзякаваў Богу за сённяшні дзень.

Няма такога беднага, які не меў бы чым падзяліцца. І няма такога багатага, які ні ў чым не меў бы патрэбы. Бедны мае радасць, усмешку, добрае слова. А ў сэрцы багатага заўсёды знойдзецца месца, каб прыняць любоў.

***– Што, на Вашу думку, з'яўляецца галоўнай прычынай, якая спрыяе падзелу ў грамадстве і адкідвае абяздоленых на абочыну жыцця?***

– Прычына ўвогуле ўсіх бед чалавецтва – абыякавасць. Чаму яна небяспечней любой зброі? Таму што паражае адразу 2 цэлі: чалавека, які абыякавасць праяўляе, бо знішчае ўсё добрае і прыгожае ўнутры яго; і асобу, якой датычыць абыякавасць, бо яна надалей застаецца "ў пустыні без аазіса".

Што дапамагае заставацца людзьмі нам, хрысціянам? Канешне, вера. Затым яна дапамагае ўбачыць чалавека ў кожным, каго сустракаем, не зважаючы на яго непрывабны выгляд або непрыемнае нутро. І ужо пасля разгледзець Хрыста ва ўсіх, хто пакутуе.

Яшчэ адзначу, што ўбогія маюць здольнасць адчуваць сэрца бліжняга. І калі яны заўважаць у табе шчодрасць, любоў і веру, адразу адгукнуцца. І тады ўжо з евангелізаваных стануць евангелізатарамі.



*Кс. Андрэй падчас адной з акцый у падтрымку ўбогіх у Гродне*

## АКТУАЛЬНА

*Ватыканскае радыё*

### Тэрарыстычны акт у Францыі

Святы Айцец Францішак выказаў спачуванні сем'ям ахвяр нападу, які адбыўся побач з катэдрай Нотр-Дам у Ніцы. У яго выніку загінулі 3 чалавекі.

"Папа Францішак яднаецца ў малітве з цярпеннем пакутуючых сем'яў і просіць Бога даць ім суцяшэнне, а ахвяр адарыць сваёй міласэрнасцю. Рэзка асуджаючы такога роду гвалтоўныя акты тэрору, ён запэўнівае ў сваёй блізкасці Каталіцкі Касцёл Францыі і ўвесь французскі народ", – гаворыцца ў тэлеграме, падпісанай Дзяржсакратаром кард. П'етра Паралінам.

### Поўны адпуст для памерлых у лістападзе

У сувязі з пандэміяй каранавіруса сёлета існуе магчымасць атрымаць поўны адпуст для памерлых вернікаў на працягу ўсяго лістапада. Адмысловы дэкрэт Апостальскай пэнітэнцыярыі быў абнародаваны 23 кастрычніка.

Такое рашэнне прынята ў адказ на просьбы многіх пастыраў і з дазволу Папы. Атрымаць поўны адпуст могуць таксама пажылыя людзі, хворыя і тыя, хто па сур'ёзнай прычыне не мае магчымасці пакідаць дом, напрыклад, у сувязі з абмежаваннямі, накладзенымі кампетэнтнымі ўладамі на перыяд пандэміі.

### Медыцына: эксперымент з выкарыстаннем дронаў

Ватыканская педыятрычная клініка "Bambino Gesù" праводзіць эксперымент з дастаўкай лабараторных матэрыялаў пры дапамозе беспілотных лятальных апаратаў.

Падчас выпрабаванняў адбылася перадача проб аналізаў з лабараторыі ў філіял клінікі на адлегласць прыкладна 30 км. Як адзначыла дырэктар клінікі Марыэла Энак, "дроны дапамагаюць хутчэй атрымліваць вынікі аналізаў, што асабліва важна ў перыяд пандэміі".

Эксперыменты з дастаўкай біямедыцынскіх грузаў пры выкарыстанні беспілотных апаратаў будуць праводзіцца да канца бягучага года.

### Божае Нараджэнне… без вернікаў?

Літургія Божага Нараджэння ў Ватыкане пройдзе без удзелу вернікаў. Гэта вынікае з ліста, які Дзяржсакратарыят накіраваў пасольствам, акрэдытаваным пры Святым Пасадзе.

Прычына такога рашэння – крызіс, звязаны з пандэміяй. Папа Францішак правядзе літургічныя цэлебрацыі прыватна, без прысутнасці членаў дыпламатычнага корпуса. Св. Імшы будуць трансліравацца ў інтэрнэце.

Варта адзначыць, што дыпламаты, акрэдытаваныя пры Святым Пасадзе, звычайна ўдзельнічалі ў папскіх набажэнствах у якасці спецыяльных гасцей.

### Малітоўныя інтэнцыі на лістапад

**паўсюдная**

Молімся, каб дасягненні робататэхнікі і штучнага інтэлекту заўсёды служылі чалавеку.

**дыяцэзіяльная**

Молімся за старэйшае пакаленне, а таксама за ўсе ўстановы, якія апекуюцца людзьмі пажылога ўзросту.

# ЖЫЦЬ НАДЗЕЯЙ ЕЗУСА

**Драматычная сітуацыя, выкліканая пандэміяй каранавіруса, з'яўляецца для нас вялікім выклікам і часам выпрабавання. Чуючы ўсё новыя і новыя рэкордныя статыстыкі захворванняў не толькі ў нашай краіне, але і ва ўсім свеце, адчуваем пагрозу, хвалюемся за сваю будучыню і сваіх блізкіх.**

*Кс. Юрый Марціновіч*

Страхі і адсутнасць пачуцця бяспекі зразумелыя. Адно можна сказаць напэўна: мы не можам ім паддавацца. Патрабуем свядомага, поўнасцю свабоднага акту веры ў тое, што Хрыстос, наш Пан і Збаўца, правярае сёння вернасць і любоў кожнага чалавека. Ён прапануе нам "гадзіну міласэрнасці", каб маглі ачысціць свае сэрцы, паглыбіць матывацыю мілавання і служэння Яму і людзям. Гэта асаблівы час ласкі, каб змаглі ўбачыць, "на колькі нас хопіць і як далёка пойдзем у Яго служэнні і хвале" (св. Ігнацый Лаёла, "Духоўныя практыкаванні", №322) пры іншых, больш складаных абставінах, чым раней. Гэта таксама вялікі Божы выклік.

Сёння Усемагутны чакае ад чалавека большай грамадскай і духоўнай уцягнутасці, больш моцнай і шчодрай любові да брата і сястры, больш творчай любові. Эпідэмія патрабуе ад усіх выключнай салідарнасці. Мы павінны супрацоўнічаць, у першую чаргу, з тымі, хто ваюе на перадавой. Мусім узняцца вышэй за ўсе ідэалагічныя, экалагічныя, рэлігійныя і палітычныя падзелы. Эпідэмія дае шмат нагод для роздуму. Яна павінна стаць відавочным знакам Бога!

Наша самая важная задача падчас эпідэміі – шчырая і шчодрая малітва: асабістая і супольная. Гэта яна дае суцяшэнне, супакой, разуменне жыцця, адкрытасць на яго. Мы не з'яўляемся гаспадарамі лёсу: ні ўласнага, ні бліжніх. Ён не належыць нам. "Божа, ты Пан усяго, і няма нікога, хто б супрацьстаяў Табе" (Эст 4, 17). Жыццё з'яўляецца чыстай ласкай і дарам. Мы ў Божых руках, і менавіта зараз – падчас эпідэміі – пачынаем лепш гэта разумець, цаніць, заўважаць.

Мы ўсё больш усведамляем, што пасля эпідэміі павінны будзем прыкласці вялізныя чалавечыя і духоўныя намаганні, каб вярнуцца – калі Пан Бог дазволіць – да нармальнага асабістага, сямейнага, грамадскага, прафесійнага і касцёльнага жыцця. Гэта запатрабуе ад нас не толькі шматлікіх ахвяр, але, найперш, глыбокай рэфлексіі над жыццём, калі мы часта без усялякіх абмежаванняў прымаем усё, што нам прапануе цывілізацыя.

Будзем жыць надзеяй, надзеяй Езуса, бо маем на гэта права, і ніхто яго ў нас не адбярэ. Няхай гэтая надзея ўносіць у нашы сэрцы ўпэўненасць, што Бог можа ўсё перамяніць на лепшае, бо нават з магілы здабывае жыццё.


pl.wikipedia.org

## ПАЎСЮДНЫ КАСЦЁЛ

**ЛАОС.** 4 хрысціяніна арыштаваны за арганізацыю пахавальнай цырымоніі. Яны абвінавачваюцца ў "парушэнні мясцовых звычаяў і традыцый". Нягледзячы на тое, што затрыманым афіцыйна не прад'яўлена абвінавачанне ў якіх-небудзь злачынствах, яны застаюцца ў турме да чакання рашэння ўлад аб далейшым разглядзе справы. Хрысціяне складаюць у краіне каля 2% ад усіх жыхароў і, як пераважна аднародная рэлігійная меншасць, сутыкаюцца з пастаяннымі формамі дыскрымінацыі, уключаючы злоўжыванне судовай уладай.

**ПОЛЬШЧА.** Канстытуцыйны суд краіны пастанавіў, што г. зв. еўгенічны аборт у законе аб планаванні сям'і, ахове чалавечага плода і ўмовах дапушчальнасці абортаў з'яўляецца неканстытуцыйным. Дадзенае рашэнне азначае, што палажэнне, на падставе якога робіцца пераважная большасць абортаў, адмяняецца. У сувязі з гэтым прыхільнікі абортаў выказваюць сваю незадаволенасць. Удзельнікі пратэстаў, між іншым, апаганьваюць святыні і перапыняюць нядзельныя службы.

**ІРЛАНДЫЯ.** Абвастрэнні, звязаныя з каранавірусам могуць прывесці да турэмнага зняволення для святароў, якія адпраўляюць св. Імшу з удзелам людзей. Згодна з прынятай папраўкай у Закон аб ахове здароўя 1947 года, допускаюцца толькі мерапрыемствы на адкрытым паветры – пры ўмове, што ўдзел у іх могуць прыняць асобы максімум з 2-ух месцаў жыхарства. Сярод забароненых мерапрыемстваў знаходзяцца рэлігійныя сходы. Выключэнне складаюць пахаванні (пры ўмове прысутнасці не больш за 25 чалавек і ксяндза). За злачынства супраць гэтых правіл прадугледжаны штраф да 2500 еўра, пазбаўленне волі на 6 месяцаў ці абодва гэтыя пакаранні разам.

**УКРАІНА.** У катэдры св. Аляксандра ў Кіеве святарскае пасвячэнне атрымаў 71-гадовы дыякан. А. Мікола Ермакоў паходзіць з Беларусі. Новапрэзбітэр з'яўляецца красамоўным пацвярджэннем таго, што ўзрост не перашкода для Бога, і таму ніколі не позна адказаць на пакліканне да святарскага служэння. Пасвячэнне ўдзяліў ардынарый Кіева-Жытомірскай дыяцэзіі кс. біскуп Віталій Крывіцкі.

**КІТАЙ.** Джымі Лай, міліянер і ганконгскі медыямагнат, якому былі прад'яўлены прэтэнзіі крымінальнага характару пасля падтрымкі дэмакратычнага руху, заявіў, што не пакіне ні горад, ні веру ў Бога. Публічны дзеяч быў падтрымкай кард. Ёзэфа Зэна, які ахрысціў яго ў 1997 годзе. Мужчына абвінавачваецца на падставе новага жорсткага закона аб нацыянальнай бяспецы, які Кітай увёў у абыход заканадаўства Ганконга. Згодна з ім, чалавек, прызнаны вінаватым у сецэсіі, дывersійнай дзейнасці, тэрарызме альбо змове з замежнымі сіламі, можа атрымаць не менш за 10 гадоў пазбаўлення волі.

**ЗША.** Стратасферная абсерваторыя інфрачырвонай астраноміі зрабіла адкрыццё: на Месяцы, у кратары, названым у гонар нямецкага езуіта кс. Хрыстафора Клавія, знойдзена вада. На здзяйсненне навукоўцаў, яе сляды выявілі на асветленай сонцам паверхні. Да гэтага часу меркавалася, што яна сустракаецца толькі ў халодных, цяністых месцах. Кратэр Клавій размешчаны ў паўднёвым паўшар'і Месяца. Ён бачны з Зямлі дзякуючы велізарным памерам.

*Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.*

# У ГРОДЗЕНСКАЙ КАТЭДРЫ АДНАВІЛІ АЛТАР СВ. ЮДЫ ТАДЭВУША

*працяг са с. 1*

**У свята свсв. апосталаў Сымона і Юды Тадэвуша ў катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне адбылося ўрачыстае адкрыццё адноўленага 300-гадовага алтара св. Юды Тадэвуша. Асвячэнне падчас св. Імшы здзейсніў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч.**

*Кс. Юрый Марціновіч*

Рэстаўрацыйныя працы ў базіліцы пачаліся больш за 2 гады таму. Алтар спачатку разабралі, аднавілі пашкоджаныя драўляныя часткі, а пасля зборкі пакрылі пазалотай – так ён выглядаў раней. Змяніўся толькі сам колер алтара. Многія часткі скульптур давялося выразаць нанова. Яну Кучынскаму за руплівасць у аднаўленні катэдральнай святыні – маці ўсіх касцёлаў дыяцэзіі, якая "з кожным годам становіцца ўсё прыгажэйшай".

Пробашч парафіі паведаміў, што на гэтым рэстаўрацыйныя працы ў касцёле не завяршацца: у бліжэйшы час пачнецца аднаўленне яшчэ аднаго алтара.

**Паводле гістарычных крыніц, двух'ярусны алтар датуецца 1720 годам. Выкананы ў барочным стылі ў майстэрні Крыстафа Пэйкера у Кёнігсбергу. У першым ярусе знаходзяцца фігуры св. евангеліста Яна і св. апостала Сымона, у другім – анёлы з атрыбутамі св. Юды Тадэвуша, у завяршэнні – св. Міхал Арханёл, які перамагае д'ябла, і два анёлы, якія трубяць у фанфары. Антэпендыум упрыгожаны манаграмамі Марыі і Хрыста. Абразы, змешчаныя ў алтары, такія ж старадаўнія, як і сам алтар: у цэнтральным ярусе адлюстраваны св. Юда Тадэвуш, у верхнім – св. Стэфан, першы мучанік.**

На заканчэнне ўрачыстасці кс. біскуп Аляксандр Кашкевіч падзякаваў усім, хто духоўным і матэрыяльным чынам паспрыяў аднаўленню алтара. Асаблівым чынам іерарх выказаў падзяку пробашчу кс. каноніку Кс. Ян выказаў надзею, што дзякуючы ахвярнасці і малітоўнай падтрымцы вернікаў і многіх зычлівых людзей атрымаецца аднавіць і іншыя алтары ў катэдры.


grodnensis.by



*Момант асвячэння адноўленага алтара*

# СТАРТУЕ БЕАТЫФІКАЦЫЙНЫ ПРАЦЭС МАНАХІНІ З ГРОДЗЕНШЧЫНЫ




працяг са с. 1

Кс. Юрый Марціновіч

### РОДАМ З НАШАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

Ванда Банішэўская нарадзілася ў 1907 годзе ў вёсцы Каменка каля Навагрудка. Жыла там разам з бацькамі, братамі і сёстрамі, пакуль не ўступіла ў бесхабітовую Кангрэгацыю Сясцёр ад Анёлаў у Вільнюсе.

У новую кангрэгацыю, якая была створана, каб дапамагаць святарам у іх душпастырскай працы, дзяўчына ў першы раз накіравалася ў 16 гадоў. Аднак яе не прынялі, бо не падыходзіла па ўзросце. Параілі спачатку скончыць школу.

**Да Кангрэгацыі Сясцёр ад Анёлаў належалі таксама дзве родныя сястры с. Ванды.**

Уступіла ў супольнасць зімой 1926 года. Неўзабаве распачала навіцыят. Атрымала манаскае імя Марыя Вацлава і летам 1933 года склала вечныя абяцанні.

Да 1950 года жыла ў супольнасці ў Прыцюнах каля Вільнюса. Працавала, між іншым, катэхеткай, праводзіла эўхарыстычную круцыяту і выконвала абавязкі настаяцельніцы дома. Як і іншыя сёстры ад анёлаў, служыла ўпотай: апраналася па-свецку, без знешніх прыкмет кансэкраванага жыцця.




С. Ванда мела містычныя перажыванні, падчас якіх чула Езуса

### ЧУЛА ЕЗУСА

Дзяўчына ўступіла ў кангрэгацыю, ужо маючы багаты містычны досвед. Вачыма душы яна бачыла Пана Езуса падчас св. Імшы. "Тваё жыццё будзе на крыжы. Будзь асцярожная, каб не сысці з яго, таму што вораг выстаўляе войска", – пачула ад Збаўцы, будучы яшчэ ў бацькоўскім доме.

У кангрэгацыі містычныя перажыванні с. Ванды ўзмацніліся. Езус усё выразней паказваў, чаго чакае ад яе. "Аддай сябе Мне цалкам. Я збіраюся зрабіць з цябе ахвяру. Прагну, каб была ўкрыжаваная за тых, хто не хоча ведаць крыж, і асабліва дзеля тых, для каго не шкадую ласкі", – даведалася яна ў дзень сваіх аблучын. Слухала з пакорай і страхам.

Спаведнікі рэкамендавалі сястры запісваць словы Езуса. Гэтыя нататкі дазвалялі зразумець важнасць яе місіі.

З цягам часу манахіня пачала адчуваць боль у месцах ран Збаўцы, што парой здаралася падчас св. Імшы альбо набажэнства Крыжовага шляху. Спадарожных з'яў, якія не паддаваліся рацыянальнаму тлумачэнню, было значна больш.

### ПАКУТЫ Ў ІНТЭНЦЫІ СВЯТАРОЎ

Галоўнай місіяй с. Ванды была малітва і цярпенне ў інтэнцыі святароў. "Дзіця маё, я паміраю, і буду паміраць, пакуль святар не вернецца з памылковага шляху. Ты станеш Божым інструментам на карысць іншым", – сказаў ёй Хрыстос. Неверагодна, але для цяжкай барацьбы за душы духоўных і кансэкраваных асоб, што знаходзяцца ў небяспецы, Ён абраў непрыкметную, хваравітую манахіню.

Рэгулярныя пакуты за святароў і манаскія супольнасці ў спалучэнні са з'яўленнем на целе стыгматаў пачаліся ў с. Ванды ў 1935 годзе. У месцах ран Хрыста яна мела адкрытыя раны. З бакоў сачылася кроў, з цела цёк крывавы пот, а з вачэй – крывавыя слёзы. Мела сінякі і сляды ад бічавання.

Як успаміналі сёстры з супольнасці, с. Ванда на працягу ўсяго жыцця, молячыся за святароў, заблытаных у разнастайных грахах і праблемах, ратавала іх ад рашэння пакінуць святарства. Падтрымка святароў – адна з харызм сясцёр ад анёлаў. Манахіня пераносіла пакуты, выкліканыя нявер'ем выбраных Богам асоб, абыякавасцю да Яго прысутнасці, падданнем выгодам свету. Яна пакутавала таксама за вядомых дзеячаў Касцёла, напрыклад, за арцыбіскупа Марсэля Лефеўра, які трапіў у схізму пасля II Ватыканскага Сабору.

### МАЛІТВА ЗА НАЙБОЛЬШЫХ ЗЛАЧЫНЦАЎ

Калі ў красавіку 1950 года с. Ванду арыштавалі камуністы па падстаўных абвінавачваннях, яна магла рыхтавацца да горшага. Асуджаная савецкім судом, была вывезена ў лагер у Верхнеўральску ў Сібіры.

Першыя зняволення манахіні вядомы з падрабязнасцямі дзякуючы дзённіку, які тая запісала пасля вызвалення па парадзе спаведніка. У ім расказваецца пра вялікае цярпенне стыгматычкі і Божае ўздзеянне праз яе.

"У турме, у агульнай і вялікай палаце хворых, я старалася дапамагаць больш пакутуючым. І свае порцыі малака, масла і белага хлеба аддавала іншым цярпячым. Супольна адгаворвала з імі Ружанец, што было строга забаронена. Нашы ружанцы, зробленыя з хлеба, адбіралі і знішчалі", – пісала ў дзённіку.

Знаходзячыся ў зняволенні, манахіня працягвала маліцца і ахвяравацца за навяртанне найвялікшых злачынцаў XX стагоддзя: Адольфа Гітлера, Іосіфа Сталіна, Лаўрэнція Берыі, Віктара Абакумава, Вячаслава Молатава... Часта падчас катаванняў мела непасрэдныя сустрэчы альбо з Езусам, альбо з анёламі, пра што гаварыла ўслых і за што цярпела яшчэ большыя здзекі.

З турмы ў Польшчу сястра вярнулася ў кастрычніку 1956 года.

### АТРЫМАЛА СТЫГМАТЫ

Цярпенне спадарожнічала с. Вандзе большую частку жыцця, аднак ніколі не скардзілася. У турме яна моцна падарвала здароўе. У 1960-ых перанесла аперацыю па выдаленні пухліны мозгу. У 1980-ых, збітая аўтамабілем, атрымала пералом сцэгна. Дзве чарговыя аперацыі не прынеслі чаканага выніку, і с. Ванда не магла нармальна хадзіць да канца жыцця. Потым стаў непакоіць яшчэ атэрасклероз.

Лячэнне ўскладнялася тым, што арганізм манахіні працяглымі перыядамі не ўспрымаў ежу і лекі. Як успаміналі сёстры, яна магла паесці дасыта толькі падчас вялікіх касцёльных свят. Гэтыя абставіны і шматлікія містычныя перажыванні (экстазы, бачанні, стыгматы), прыводзілі да таго, што с. Ванда не магла ў поўнай меры ўдзельнічаць у жыцці сваёй манаскай супольнасці.

У 1974 годзе стыгматы на руках і нагах зніклі, засталіся толькі раны на грудзях і галаве.

### НАДАЛЕЙ ЗАСТАЕЦЦА ТАЯМНІЦАЙ

С. Ванда памерла ў сакавіку 2003 года ў арэоле святасці. Мела 96 гадоў, 76 з якіх правяла ў манастве. Перадумоў для распачацця яе беатыфікацыі было як мінімум некалькі. Гэта асаблівыя дары, якія былі выяўлены пасля смерці, дар стыгматаў і містычны, дар заступніцкай малітвы і ахвяравання малітваў і пакут, асаблівым чынам за святароў, а таксама за іншых людзей.

Пастулатар беатыфікацыйнага працэсу кс. Міхал Сенніцкі SAC гаворыць, што працы, звязанай з гэтым працэсам, будзе шмат, таму што ёсць мноства сведкаў жыцця і святасці с. Ванды. З некаторымі святар ужо кантактаваў, іншыя адгукнуліся пасля публікацыі дэкрэта аб распачацці беатыфікацыйнага працэсу на пачатку кастрычніка гэтага года.

**Сёстры ад анёлаў працуюць на тэрыторыі Беларусі з пачатку існавання кангрэгацыі. Яны катэхізуюць і дапамагаюць у парафіях, аднак з-за ўтоенай формы жыцця не афішыруюць сваёй прысутнасці.**

Кс. Міхал дзеліцца, што з той інфармацыі, з якой ужо давялося пазнаёміцца, паўстае звычайная асоба, паглыбленая ў простыя, паўсядзённыя справы. Але ў той жа час гэта асоба, якая перажыла трагедыю II Сусветнай вайны, асабіста ёю закранутая, уплеценая ў трагічную гісторыю. Святар падкрэслівае, што сястру вылучае праведнасць. Яна заступалася, дапамагала, прысутнічала. Узнясенне манахіні да хвалы алтара мае на мэце паказаць яе як узор хрысціянскага паклікання, узор асобы, якая праз усё жыццё гераічна імкнулася да святасці.

У той жа час пастулатар беатыфікацыйнага працэсу адзначае, што постаць с. Ванды ўсё яшчэ ахутана таямніцай. Гэта звязана таксама і з тым, што сёстры з яе кангрэгацыі вядуць утоенае жыццё, а ў с. Ванды яно было асабліва скрытае. Пра містычны і стыгматычны вопыт ведалі нямногія. Некаторыя асаблівасці высвятляюцца толькі цяпер.

### ПАКІНУЛА ПАСЛАННЕ

С. Галіна Скубіш з Кангрэгацыі Сясцёр ад Анёлаў сцвярджае, што для манаскай супольнасці с. Ванда стала апякункай дзякуючы сваім ахвярам і пакутам: "Мы верым, што яна працягвае заступацца і што – дасць Бог – моц яе заступніцтва яшчэ выявіцца". Манахіня падкрэслівае, што беатыфікацыйны працэс – гэта адказ на культ с. Ванды Банішэўскай і перакананне многіх свецкіх людзей і святароў, якія іх мабілізавалі і ахвотна далучаліся да разнастайных ініцыятыў. Быццам бы крок за крокам знаходзіўся хтосьці, хто прапаноўваў дапамогу ў справе распачацця беатыфікацыі, прадпрымаў пэўныя дзеянні.

"Мы верым, с. Ванда атрымала шмат Божых ласкаў, адносна якіх канчаткова выказацца Касцёл. Яна вельмі глыбока перажывала гэты досвед. Любіла кангрэгацыю і сясцёр. Шмат за іх цярпела, узнагароджвала за нявернасць святарскага і манаскага стану, узмацняла нестабільных асоб сваёй ахвярай. Гэта па-ранейшаму актуальнае пасланне с. Ванды", – гаворыць с. Галіна.

Лічым вялікім гонарам, а таксама ўспрымаем як вялікі абавязак, што народжаная на нашай зямлі с. Ванда Банішэўская пакінула нам канкрэтны запавет: больш ахвяравацца для Бога і падтрымліваць праз малітву і ахвяру тых, хто найбольш блізкі да Яго – святароў і кансэкраваных асоб. Кожны з нас па яе прыкладзе можа зрабіць вялікі ўклад у духоўнае жыццё Касцёла.

*Аб атрыманых ласках просім інфармаваць пастулатара:*

**Ks. Michał Siennicki SAC**
**ul. Kilińskiego 20**
**05-850 Ożarów Mazowiecki**
**Polska**

## МАЛІТВА ПРАЗ ЗАСТУПНІЦТВА С. ВАНДЫ

Божа, які Слугу Божую с. Ванду Банішэўскую з Кангрэгацыі Сясцёр ад Анёлаў паклікаў весці ўтоенае жыццё і даў асаблівую ласку ўдзелу ў муцы Твайго Сына і складвання ў ахвяру свайго цярпення ў інтэнцыі святароў, учыні, каб Касцёл узнёс яе да хвалы алтара і спазнаў яе нястомнае заступніцтва. Праз заступніцтва с. Ванды ўдзялі мне ласку ... *(выказаць просьбу)*, аб якой пакорна прашу Цябе. Амэн.

ДАПАМАГЧЫ ДОБРАЙ РАДАЙ

# ЯК МАТЫВАВАЦЬ ДЗІЦЯ НАВЕДВАЦЬ КАТЭХЕЗУ?



Кс. Павел Салабуда, псіхолаг

Выхаванне дзіцяці – складаная справа, якая патрабуе шмат часу. Пры гэтым вельмі важна не забываць, што акрамя фізічнага і інтэлектуальнага выхавання ёсць яшчэ духоўнае. Тут трапнымі будуць словы кс. Марэка Дзевецкага, спецыяліста ў галіне псіхалогіі: "Духоўнасць – гэта здольнасць чалавека зразумець уласную таямніцу. Толькі духоўная асоба можа свядома кіраваць сваім жыццём. Таму няма вольнасці без духоўнасці".

У наш час вельмі цяжка ўявіць духоўнае выхаванне чалавека без яго ўдзелу ў катэхезе. Прытым самая вялікая праблема сучасных бацькоў – як матываваць дзіця да гэтага?Вядома,найлепшымспосабамвыхавання з'яўляецца ўласны прыклад. Ці значыць гэта, што бацькі павінны самі хадзіць на катэхезу?

Перш за ўсё, важна разумець значэнне катэхізацыі, якая не абмяжоўваецца толькі падрыхтоўкай да першай споведзі. Тыя бацькі, якія хадзілі на ўрокі рэлігіі ў дзяцінстве, лепш гэта зразумеюць і, вядома, у большасці выпадкаў будуць клапаціцца пра тое, каб іх сын ці дачка таксама ўдзельнічалі ў катэхезе ў школьныя гады.

Дзіцяці патрэбна яснае ўсведамленне важнасці рэлігійных заняткаў, г. зн. духоўнага развіцця. Пра такое развіццё павінны клапаціцца менавіта бацькі, і толькі яны нясуць адказнасць за выхаванне сваіх дзяцей – добрае выхаванне. А Касцёл, у сваю чаргу, прыкладвае ўсе намаганні, каб і бацькі, і дзеці мелі магчымасць рэлігійнай адукацыі.

Сёння пры кожнай парафіі арганізавана катэхеза, таму доступ да духоўнага навучання ёсць. Існуюць розныя моўныя групы, класы, гурткі з магчымасцю развіцця талентаў дзіцяці. Ёсць добрая каманда катэхетаў і выхавацеляў. Застаецца толькі адно: каб дзіця апынулася за катэхетычнай партай.

Безумоўна, важна, каб катэхет таксама пастараўся зацікавіць дзіця, знайшоў падыход да кожнага вучня. Сёння недастаткова проста стаяць і расказваць пэўную праўду веры, трэба выкарыстоўваць розныя метады і спосабы перадачы Евангелля.

Бацькі ж са свайго боку павінны падштурхоўваць дзіця да наведвання катэхетычных заняткаў. Варта займацца і ўласным духоўным выхаваннем: напрыклад, хадзіць разам з дзіцём на св. Імшу, да споведзі, супольна маліцца. Але сёння гэтага недастаткова. Неабходна размаўляць на рэлігійныя тэмы дома, тлумачыць дзіцяці, што быць духоўна выхаваным чалавекам вельмі важна. Добра пазнаёміць сына ці дачку з аднагодкамі, якія цікавяцца ўрокамі рэлігіі і сістэматычна наведваюць касцёл. Такім чынам дзіця будзе мець годны прыклад для пераймання.

Непажадана допускаць, каб катэхеза ўспрымалася толькі як урок, дзе адбываецца праверка, выстаўляецца адзнака і г. д. Часта ўрок можа атаясамлівацца са школай, з тымі прадметамі, якія не заўсёды падабаюцца. Катэхетычныя заняткі павінны ўспрымацца, перш за ўсё, як магчымасць пазнання Таго, хто цябе любіць, самога Бога, які з'яўляецца Айцом. Духоўнае выхаванне – гэта не толькі навучанне, але і час, каб адпачыць з Богам. Напрыклад, дзецям вельмі падабаюцца "Канікулы з Богам", дзе яны гуляюць са сваімі аднагодкамі, адпачываюць, але і шмат даведваюцца пра Усемагутнага і створаны Ім свет.

Будзе памылкай падманвацца, тлумачачы сабе і ўсім, што калі дзіця вырасце, само пачне выбіраць, ці трэба яму ісці да споведзі або ў касцёл. Да таго часу яно ўжо можа страціць дар жыцця. Шчаслівыя дзеці, якія бачаць, як бацькі клапоцяцца пра іх рэлігійнае выхаванне і пазнанне Бога.

Дарагія Бацькі, штодня маліцеся за сваіх сыноў і дачок і за іх будучыню!

ЭКАЛАГІЧНАЯ ЦНОТА

# ЭКАЛАГІЧНЫ ПАДЫХОД ДА ХАРЧАВАННЯ АЧЫШЧАЕ ЦЕЛА І ДУШУ



Алена Майсюк

**Адна з магчымасцей пазнаць сябе – навучыцца слухаць сваю прыроду. Прапаную разгледзець экалагічныя аспекты харчавання. Калі будзем свядома падыходзіць да выбару штодзённага рацыёну, зможам фізічна і духоўна аздаравіцца.**

### ЦІ ЗАДУМВАЕМСЯ, ЧЫМ ХАРЧУЕМСЯ

Штодня чалавеку прапануецца мільён магчымасцей. Гэта датычыць і харчавання. Людзі ўсё больш і больш спажываюць. А попыт, як вядома, нараджае прапанаванне. Такім чынам, сучасныя разбуральныя маштабы пашыраюцца...

Цэлыя лясы вырубаюцца, каб засеяць палі кармавымі культурамі для будучага кумпячка, шашлыка ці біфштэкса. Вучоныя з універсітэта Твентэ (Нідэрланды) падлічылі, што ў свеце індустрыя жывёлагадоўлі выкарыстоўвае больш 70% ворных зямель толькі для забеспячэння корму для жывёлы. У выніку, каб вырабіць 1 кілаграм мяса, патрабуецца 15 тысяч літраў вады.

Альбо вось... Вы ведалі, што мука, цукар, сланечнікавае масла ўжо даўно сталі рафінаванымі, а значыць, не насычаюць арганізм энергіяй. Каб засвоіцца, ім патрэбна ўступіць з нечым у рэакцыю. Гэта забірае ў чалавека сілы. Яшчэ больш небяспечныя канцэрагенныя прадукты. Арганізм не здольны вывесці іх, што правакуе мутацыю клетак. Геннамадыфікаваныя – нясуць інфармацыю разбурэння. І гэта толькі частка наступстваў, якія цягне за сабой несвядомае харчаванне.

### ЕЖА – ДЛЯ РАДАСЦІ

Як харчавацца? Што можна, а што нельга? Чалавек даведваецца пра гэта ад іншых людзей, з рэкламы, ад дактароў. Калі здараецца хвароба, пачынае шукаць вінаватага: мікробы, экалогія і г. д. Варта зазірнуць унутр сябе, высветліць, што прадстаўляе сабой чалавечы арганізм, як ён функцыянуе.

Прапаную ўвазе некалькі фактаў аб стрававальнай сістэме:
– страўнікава-кішэчны тракт прыстасаваны харчавацца пладамі (ягадамі, садавінай, агароднінай) або іншымі жывымі прадуктамі;
– пры перяданні ці адначасовым прыёме неспалучаемых прадуктаў у арганізме адбываецца працэс закісання, што вядзе да інтаксікацыі падобна атручванню алкаголем;
– мёртвая ежа (забітая плоць жывёл, вараная і сінтэтычная) выклікае залежнасць падобна наркатычнай;
– хвароба з'яўляецца спробай арганізма самаачысціцца;
– арганізм здольны да поўнага самааднаўлення, калі перайсці на жывую ежу.




Устрыманне ад ежы (пост або частковае ці поўнае галаданне) ачышчае арганізм чалавека. Выкарыстоўваючы ў рацыёне правільныя прадукты, можна адчуць напаўненне энергіяй, жыццярадаснасць, творчы ўздым, тым самым набліжацца да Творцы. Варта цікавіцца даследаваннямі, якія праводзяць незалежныя кампаніі, вывучаць, як працуе арганізм. Усё гэта дапамагае знайсці ўласны гарманічны шлях развіцця.

15 лістапада адзначаецца Сусветны дзень другаснай перапрацоўкі. Гэта чарговы напамін пра тое, што варта сартаваць смецце. Менавіта з такой мэтай бытавыя адходы збіраюцца ў асобныя кантэйнеры: пластык, папера, шкло. Калі правільна падыходзіць да справы, яны могуць выкарыстоўвацца другасна. На здабычу новай сыравіны патрабуецца шмат энергазатрат. А ад гэтага церпіць, перадусім, прырода.

ЗАДАЙ ПЫТАННЕ

## Як Касцёл паўплываў на развіццё культуры і навукі?

Каталіцкі веснік

*Імёны такіх дзеячаў культуры, як Мікеланджэла Буанароці і Леанарда да Вінчы, не патрабуюць прадстаўлення. Сёння мы захапляемся іх шматлікімі шэдэўрамі сакральнага будаўніцтва, скульптурамі і карцінамі. Талент гэтых людзей змог раскрыцца менавіта праз дапамогу і апякунства Касцёла.*

*У музыцы варта згадаць імя знакамітага кампазітара Антоніа Вівальдзі, які быў каталіцкім святаром. Яго знакаміты твор "Чатыры пары года" з'яўляецца адным з самых вядомых па сённяшні дзень. Многія са сваіх твораў Вольфганг Амадэй Моцарт, Людвіг ван Бетховен, Іаган Себасцьян Бах, Ёзэф Гайдн прысвячалі рэлігійнай тэматыцы, каб больш поўна раскрыць праз музыку сутнасць евангельскага паслання.*

*Дарэчна прывесці і імёны некаторых выдатных даследчыкаў і навукоўцаў, якія былі адначасова шчырымі католікамі. Сярод іх Уільям Окам – англійскі філосаф, манах францішканскага ордэна. Ён з'яўляецца бацькам сучаснай эпістэмалогіі – навукі пра веды. Мікалай Кузанскі – нямецкі мысліцель, вучоны-энцыклапедыст, матэматык, каталіцкі кардынал. У сферы астраноміі адным з першых выказаў ідэю, што Сусвет бясконцы і не мае цэнтра ні на Зямлі, ні на Сонцы; а таксама пра тое, што ўсе свяцілы рухаюцца і складаюцца з рэчываў, падобных да зямных (а не з "вечнага эфіру", як лічылі паслядоўнікі Арыстоцеля). Філіп Матэус Ган – нямецкі святар і вынаходнік. Адным з першых вынайшаў падліковую машыну, распрацоўваў гадзіннікавыя механізмы і астранамічныя прыборы. Грэгар Мендэль – аўстрыйскі біёлаг і батанік, аўтар матэматычных законаў генетыкі і ў той жа час святар, а пасля – настаяцель Аўгусцінскага абацтва св. Тамаша ў Старэ Брно (Чэхія). Жорж Лемэтр – бельгійскі астраном і матэматык, каталіцкі святар. Асноўны навуковы ўклад унёс у астрафізіку і касмалогію. Першым сфармуляваў тэорыю Сусвету, які пашыраецца, і яго зараджэнне з "першапачатковага атама". Пазней тэорыя была названа "Вялікім выбухам", і менавіта пад гэтай назвай вядома ў навуцы сёння.*

*Можна смела сцвярджаць, што Касцёл значна паўплываў на сферы культуры і навукі. Ён адыграў і працягвае адыгрываць вялікую ролю ў развіцці грамадства.*

# ДАПАМОГА ЧЫСТЦОВЫМ ДУШАМ

працяг са с. 1

**Сведчанні святых містыкаў паказваюць, што многія душы церпяць неймаверныя пакуты ў чыстцы, але ніяк не могуць прынесці сабе палёгку. Мы ж у стане прыйсці ім на дапамогу і не толькі паменшыць, але і скараціць пакуты.**

*Кс. Юрый Марціновіч*


pinterest.com

У пропаведзі на Задушны дзень св. Ян Марыя Віянэй, заступнік усіх святароў, указвае на 3 спосабы дапамогі душам, якія церпяць у чыстцы.

### 1. МАЛІТВА

*"Наперад праз малітвы. Калі мы молімся за чыстцовыя душы, то на іх карысць уступаем тое, што Бог удзяліў бы нам, калі б маліліся за сябе. [...] Кожную раніцу можам ахвяраваць за душы ў чыстцы ўсе свае штодзённыя справы і ўсе малітвы, якія прамаўляем на працягу дня".*

Можа здавацца, што гэта няшмат, але св. Ян Марыя Віянэй узгадвае тут вобраз беднага, загружанага камянямі чалавека, які вельмі доўга нясе сваю ношу. Мы, кожны дзень праходзячы міма, можам зняць з яго плячэй хаця б невялікі каменьчык. Праз некаторы час не толькі зробім пакутніку лягчэй, але і цалкам вызвалім ад цяжару.

Дык як маліцца за памерлых? Прапаноў вельмі шмат. Вялікую моц мае Ружанец, Вяночак да Божай міласэрнасці, Літанія за памерлых ці малітва св. Гертруды, якая вызваляе тысячу душ з чыстца. (Падчас аднаго з аб'яўленняў Езус прадыктаваў св. Гертрудзе малітву і паабяцаў, што за кожнае яе прамаўленне вызваліць роўна 1000 душ з чыстца. Ёю можна маліцца шмат разоў у групе альбо ў адзіночку).

### 2. ЭЎХАРЫСТЫЯ

*"Наймагутнейшы спосаб, каб вызваліць душы з чыстца, – гэта св. Імша. Калі мы ахвяруем не за гэтыя бедныя душы, то ўжо не грэшнік просіць грэшніка, а Бог, роўны свайму Айцу, які ні ў чым не адмовіць Сыну".*

Эўхарыстыю св. Ян Марыя Віянэй згадвае як найбольш эфектыўны спосаб дапамогі чыстцовым душам, бо ў ёй чэрпае сваю сілу ўсё, што мы робім ці аб чым просім. Трэба памятаць, што св. Імша – гэта не звычайная малітва. Гэта ахвяра Цела і Крыві Хрыста, якая паўтараецца кожны раз на алтары. Гэта цярпенні, нягоды, мукі Езуса, ахвяраваныя ў інтэнцыі, указанай на пачатку літургіі. Самы вялікі дар, які можам прапанаваць душам у чыстцы, – Эўхарыстыя, удзел у ёй і прыняцце св. Камуніі ў іх намеры.

У нашай традыцыі добра вядомая практыка грыгарыянскіх св. Імшаў за душы памерлых. Пад гэтым тэрмінам разумеем цэлебрацыю 30-ці св. Імшаў (1 Імша ў кожны чарговы дзень) у інтэнцыі адной памерлай асобы, у інтэнцыі даравання ёй чыстцовай кары. Дадзеная практыка ініцыявана ў VI стагоддзі папам Рыгорам I Вялікім, які наказаў адпраўляць у такой форме Імшу за памерлага манаха бенедыктынца, пры якім былі знойдзены грошы, а з-за абяцання беднасці ён не павінен быў іх мець. Як паведамляецца, на 30-ты дзень гэтыя манах аб'явіўся Папе і падзякаваў за аказаную яму міласэрнасць, дзякуючы якой пакінуў чысцец.

### 3. АДПУСТЫ

*"Мы можам вызваляць душы з чыстца праз адпусты. Гэта вялікая дапамога нечуванай цаны. Душы, падтрыманыя ёю, вельмі хутка набліжаюцца да Неба. Падумайце, дарагія браты, колькі адпустаў можна атрымаць, ідучы Крыжовым шляхам, прамаўляючы Ружанец ці іншыя малітвы, з якімі звязаны адпусты. Мы вельмі вінаватыя, вельмі нячулыя, калі, маючы магчымасць такімі простымі сродкамі вызваліць душы бацькоў, не робім гэтага, а дазваляем ім гарэць у жудасным полымі чыстца!".*

Адпусты – асаблівы прывілей, нададзены Касцёлам розным малітвам і дзеянням, які прыводзіць да прабачэння часткі альбо ўсіх пакаранняў за ўчыненыя і прызнаныя на споведзі грахі (менавіта таго пакарання, якое мы можам выканаць на зямлі, прымаючы пакуту за грахі, у іншым выпадку адбываем яго ў чыстцы). Таму дзякуючы адпустам можам скараціць ці нават цалкам выключыць пакаранне чыстца для душы.

Адпуст можа быць поўным – скасаванне ўсяго пакарання, або частковым – скасаванне часткі пакарання. У гэтым годзе выключным чынам дар поўнага адпусту, звязаны з наведваннем могілак, можна атрымаць на працягу ўсяго месяца – у адвольныя самастойна выбраныя 8 дзён.

Каб атрымаць адпуст за памерлых, недастаткова выканаць знешнія дзеянні – неабходна прыкласці духоўныя намаганні. Гэтая ласка таксама не працуе аўтаматычна (у духоўным жыцці нішто так не працуе). Трэба знаходзіцца ў стане асвячальнай ласкі, прыняць св. Камунію і памаліцца ў інтэнцыях, у якіх моліцца Папа. Таксама нельга мець у сэрцы прывязанасці да ніводнага граху, нават штодзённага. Гэта самая складаная ўмова. Можна не грашыць, але быць прывязаным да грахоў.

Гаворка ідзе пра шчырасць інтэнцыі, г. зн. пра шчыры жаль і сапраўдную гатоўнасць змяніць жыццё назаўсёды, а не толькі на 2-3 дні, каб атрымаць адпуст. Я не магу мець схільнасці ні да аднаго граху, нават найменшага. Пасля сапраўды добрай і шчырай споведзі, калі маю пастанову выправіцца, у мяне сапраўды ёсць шанс на гэтую свабоду ў сэрцы і на здабыццё ласкі поўнага адпусту. Калі ахвярую яго за душу ў чыстцы, гэта азначае для яе ўваходжанне ў нябесную славу.

Пра частковыя адпусты менш гавораць, а шкада, бо на іх працей адкрыцца. Патрабуецца толькі стан асвячальнай ласкі і пакаянне сэрца, г. зн. пакорлівае ўсведамленне ўласнай слабасці і неабходнасці Божай ласкі. Калі знаходзячыся ў такім стане з інтэнцыяй дапамагчы памерламу прамовіць любую малітву, якой Касцёл надаў ласку частковага адпусту, – "Тваёй абароне", Ружанец, "Вечны супакой" альбо памаліцца кароткім заклікам "Езу, давяраю Табе!" у складаных сітуацыях, напрыклад, каб не адказваць злом на зло, – можна атрымаць ласку частковага адпусту, г. зн. дараванне часткі чыстцовых пакут душы.

Варта пры гэтым памятаць, што памерлым дапамагае не столькі колькасць нашых малітваў ці ўчынкаў, як тое, колькі ў іх шчырай любові да Бога і іншага чалавека.

## МАЛІТВА СВ. ГЕРТРУДЫ

Ойча Спрадвечны, ахвярую Табе Найдаражэйшую Кроў Боскага Сына Твайго, Пана нашага Езуса Хрыста, у спалучэнні з усімі св. Імшамі, якія сёння адпраўляюцца ў свеце, за душы, церпячыя ў чыстцы, за тых, хто памірае, за грэшнікаў у свеце, за грэшнікаў у Паўсюдным Касцёле, за грэшнікаў у маёй сям'і, а таксама ў маім доме. Амэн.

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

КОЖНУЮ НЯДЗЕЛЮ Ў 8.00 НА ПЕРШЫМ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ КАНАЛЕ БЕЛАРУСКАГА РАДЫЁ Ў ГРОДНЕ НА 96,9 FM, У СВІСЛАЧЫ НА 100.8 FM.

*Кс. Юрый Марціновіч*

*8 лістапада – XXXII Звычайная нядзеля*
*Мц 25, 1–13*

Езус расказаў сваім вучням такую прыпавесць: "Валадарства Нябеснае будзе падобна да дзесяці паннаў, якія, узяўшы свае светачы, выйшлі насустрач жаніху. Пяць з іх было неразумных, а пяць – мудрых. Неразумныя, узяўшы свае светачы, не ўзялі з сабою алею. Мудрыя ж разам са светачамі сваімі ўзялі алей у пасудзіны свае. Калі жаніх спазняўся, то задрамалі ўсе і паснулі. Але сярод ночы ўзняўся крык: «Вось жаніх, выходзьце яму насустрач». Тады ўсталі ўсе панны гэтыя і прывялі ў парадак светачы свае. Неразумныя ж сказалі мудрым: «Дайце нам вашага алею, бо нашы светачы гаснуць». А мудрыя адказалі: «Каб хапіла і вам, і нам, пайдзіце лепш да тых, хто прадае, і купіце сабе». Калі ж пайшлі яны купляць, прыйшоў жаніх і тыя, якія былі падрыхтаваныя, увайшлі з ім на вяселле, і зачыніліся дзверы. Пасля прыходзяць і астатнія панны ды кажуць: «Пане, пане, адчыні нам». Ён жа сказаў ім у адказ: «Сапраўды кажу вам: не ведаю вас». Таму чувайце, бо не ведаеце ні дня, ні гадзіны".

### Падрыхтавацца да сустрэчы з Богам

*Мы жывём у свеце, які не любіць чакаць. Прызвычаіліся да таго, што ўсё маем неадкладна. У прыпавесці пра дзесяць паннаў Езус вучыць нас чакаць Яго прышэсця.*

*У Божай эканоміцы сустрэч з чалавекам не спрацоўваюць узоры сучаснага свету. Часам Бог прыходзіць нечакана, а часам нібы марудзіць. У чаканні Яго прыходу гаворка ідзе не пра пільнасць, бо заснулі ўсе панны, а пра падрыхтоўку – збор належнага запасу алею. Нічога каштоўнага, зусім звычайная рэч – алей. Пакуль ён ёсць, ніхто не звяртае на гэта ўвагі, але калі яго не засталося, "неразумныя панны" скончылі трагічна, застаўшыся "звонку".*

*Алеем для сучасных хрысціян, якія чакаюць прышэсця Пана, з'яўляецца малітва – звычайная, штодзённая, але настойлівая. Гэта святло душы. Недастаткова аднойчы паўдзельнічаць у рэкалекцыях ці паломніцтве, трэба сістэматычна "падліваць" алей у свае лямпы, каб яны не згаслі. Такім чынам, чаканне – гэта не зусім трата часу, а шанс падрыхтавацца да сустрэчы з Езусам. Давайце ж здолеем ім скарыстацца.*

*Пане Езу Хрыстэ, дай мне ласку заслужыць сустрэчу з Табой у Нябесным Валадарстве. Ад усяго сэрца прагну ўжо сёння шчаслівай вечнасці.*

*15 лістапада – XXXIII Звычайная нядзеля*
*Мц 25, 14–15. 19–21*

Езус расказаў сваім вучням гэтую прыпавесць: "Пэўны чалавек, ад'язджаючы, паклікаў слуг сваіх і даручыў ім маёмасць сваю. Аднаму даў пяць талантаў, другому – два, іншаму – адзін, кожнаму паводле ўласных магчымасцей, і ад'ехаў.

Па доўгім часе прыходзіць гаспадар слуг гэтых і патрабуе ад іх рахунку. Той, які атрымаў пяць талантаў, падышоў і прынёс яшчэ пяць талантаў і кажа: "Гаспадар, пяць талантаў ты даў мне; вось яшчэ пяць талантаў я зарабіў на іх". Гаспадар ягоны сказаў яму: "Добра, слуга добры і верны, у малым ты быў верны: над многім цябе пастаўлю. Увайдзі ў радасць гаспадара твайго".

### Заўсёды быць у стане ласкі

*Прыпавесць пра таленты, якую Касцёл прапануе нам напрыканцы літургічнага года, вучыць, што Бог шчодра адорвае кожнага чалавека ў адпаведнасці з яго здольнасцямі. Гэты падарунак становіцца адказным заданнем. Важнае значэнне мае вернасць у дробных на першы погляд рэчах. Менавіта з іх і складаецца канчатковы поспех. Дзеля невялікіх перамог трэба працаваць кожны дзень, стойка і мужна.*

*Той, хто закопвае свой дар з-за маладушнасці і страху, ужо страціў свой шанс. Той, хто выкарыстоўвае даброты, атрыманыя ад Пана, і памнажае іх праз верную штодзённую працу, з'яўляецца добрым слугой. А той, хто думае, што неяк там будзе, і не прыкладвае рукі да працы – марнуе атрыманае і забывае, што трэба разлічвацца.*

*Пан калісьці вернецца, і кожны з нас стане перад Ім з уласным рахункам, дзе важным пунктам з'яўляецца прыбытак. Недастаткова не змарнаваць, неабходна яшчэ развіць тое, што было дадзена "ў арэнду". Калі талент, пра які ідзе гаворка, з'яўляецца Божай ласкай, то гэтая прытча – нашмат больш, чым пра выкарыстанне нашых прыродных дароў і добрых схільнасцей, – нагадвае аб памнажэнні ў сабе рэальнасці Божага Валадарства, будуючы яго ў сэрцы шляхам сталых выбараў.*

*Пане Езу Хрыстэ, дазволь мне кожны дзень трываць у асвячальнай ласцы. Усведамляю, што толькі Твая ласка адкрые перада мной брамы Божага Валадарства.*

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЛЕАНАРДУ СТАНКОЎСКАМУ

*з нагоды імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай Ваш святы заступнік штодзённа Вамі апекуецца, Маці Божая ахінае плашчом мацярынскай пяшчоты, Усемагутны шчодра адорвае сваімі ласкамі, а Святы Дух напаўняе дарамі кожны дзень Вашага жыцця і святарскай паслугі.*

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Солаў*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ВІТОЛЬДУ ЧУРГАНУ

*з нагоды імянін перасылаем шмат сардэчных пажаданняў: здароўя, радасці, душэўнага супакою і добрых людзей побач. Няхай Пан Езус прытуліць Вас да свайго Найсвяцейшага Сэрца і адорыць блаславеннем і ўсімі ласкамі на доўгія гады. Шчасці Божа!*

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Юраціашкаў*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ МІХАЛУ ЛАСТОЎСКАМУ

*з нагоды 19-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў шчыра дзякуем за тое, што нясеце нам радасць Евангелля. Мы ўдзячны Богу, Вашай сям'і і ўсім, хто стаяў ля вытокаў выбару Вашага жыццёвага шляху, за тое, што маем такога святара. Няхай міласэрны Пан адорыць моцным здароўем і бясконцым натхненнем, святло Хрыста няхай асвячае святарскі шлях, а Маці Божая вядзе найлепшай сцежкай да святасці і прытуляе да свайго мацярынскага сэрца. Мы ўдзячны Вам за ўдзяленне святых сакрамантаў, Вашу любоў, духоўнае кіраўніцтва, парады, настаўленні, клопат аб нашым збаўленні, за нялёгкую працу на ніве Пана для ратавання кожнай заблукалай душы.*

*З малітвай і павагай парафіяне з Гродна-Аўгустоўка*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРЭЛАТУ ВІТОЛЬДУ ЛАЗАВІЦКАМУ

*з нагоды імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, шчасця, поспехаў у душпастырскай працы, апекі Маці Божай і людской добразычлівасці. Няхай Ваша жыццё будзе шчаслівым і блаславёным, а Бог няспынна адорвае Вас сваімі ласкамі.*

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Радуні*

### ПАВАЖАНЫ АЙЦЕЦ АНДРЭЙ ЗУЙ!

*Шчыра віншуем Вас з днём нараджэння і надыходзячымі імянінамі. Няхай добры Бог асвятляе шчодрымі ласкамі Ваш жыццёвы шлях, адорвае моцным здароўем, дае натхненне, цярплівасць і вытрымку на доўгія гады служэння.*

*Няхай Усявышні з Неба на Вас Святога Духа спасылае,*
*Быць шчырым і мудрым пастырам няхай Ён Вас благаслаўляе.*
*Прыносіць сваёй працай багаты, добры плён,*
*Служыць аддана Богу аж да апошніх сваіх дзён.*

*З павагай і любоўю вернікі з касцёла св. Яна Хрысціцеля з в. Гарадзішча Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ПАЎЛУ РАМАНОЎСКАМУ

*з нагоды дня нараджэння дасылаем самыя цёплыя віншаванні. Няхай кожны новы дзень прыносіць Вам толькі добрыя весткі, сэрца не кранаюць трывогі і смутак, а служэнне, да якога ставіцеся так адказна, прыносіць толькі задавальненне і радасць. Няхай агеньчык дабрыні, запалены Панам Богам у Вашым сэрцы, гарыць на працягу ўсяго жыцця і ніколі не гасне.*

*Здароўя моцнага, апекі Божай Маці,*
*Дароў Святога Духа, новых планаў!*
*А Ваша годнасць, дабрыня і святасць –*
*Найлепшы прыклад для парафіянаў.*

*Шчасці Божа Вашым бацькам і хросным за выхаванне такога святара.*

*З павагай вернікі з касцёла МБ Ружанцовай у Граўжышках*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЛЕОНУ ЛАДЫШУ

*з нагоды імянін перасылаем найлепшыя пажаданні: здароўя на доўгія гады, душэўнага супакою і Божага благаслаўлення. Няхай добры Бог адорвае Вас шчодрымі ласкамі, Найсвяцейшая Маці чувае над Вамі кожны дзень, святы заступнік нястомна апекуецца, а паслуга будзе напоўнена моцай і дарамі Святога Духа.*

*З пашанай былыя парафіяне з Войстама*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПАЎЛУ РАМАНОЎСКАМУ

*з нагоды 6-ай гадавіны святарства і дня нараджэння сардэчна жадаем моцнага здароўя, шчодрага плёну ў працы на Божай ніве, а таксама дапамогі Пана на нялёгкім святарскім шляху і апекі Найсвяцейшай Панны Марыі на кожны дзень, а побач – добразычлівых людзей.*

*Вернікі з парафіі св. Юзафа ў Гродне*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ЯНУ РАДЗЮКУ

*з нагоды 16-ай гадавіны святарства прагнем скласці сардэчныя пажаданні: шчодрых Божых ласкаў і толькі шчаслівых хвілін. Жадаем шмат радасці ў душпастырскай паслузе, а таксама сілы для рэалізацыі ўсіх планаў і намераў. Няхай усе людзі, якіх Вы сустрэнеце на сваім святарскім шляху, адорваюць дабрынёй і зычлівасцю, а ўсемагутны Бог спасылае на Вас свае шчодрыя дары.*

*Вернікі з парафіі св. Юзафа ў Гродне*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ВІКТАРУ ЗАХАРЭЎСКАМУ

*з нагоды 14-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем вялікай радасці ад кожнага дня душпастырскай паслугі, Божага благаслаўлення і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай добры Бог адорвае Вас моцным здароўем, а Маці Божая мае ў сваёй апецы і выпрошвае патрэбныя ласкі ў Пана, каб Вы далей адважна крочылі па нялёгкіх сцежках святарскага жыцця.*

*З малітвай і памяццю былыя парафіяне з в. Моцевічы*

### ШАНОЎНАЙ СПАДАРЫНІ ЯНІНЕ УТЫРА

*з 80-годдзем ад усяго сэрца жадаем добрага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, цярплівасці, стойкасці і міру ў душы. Няхай радасць і спакой заўсёды Табе спадарожнічаюць, смутак заўсёды абмінае і жыццё плыве ў радасці, а Маці Божая асвячае Твой шлях промнямі сваёй міласэрнасці.*

*Юзаф і Зоф'я Утайка разам з дзецьмі і ўнукамі*

***Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.***

### ПАВАЖАНЫ КСЁНДЗ ПРОБАШЧ АЛЕГ ШПЕНЬ!

У час смутку і жалобы прыміце сардэчныя спачуванні ў сувязі з адыходам у вечнасць дарагой мамы. Мы ўдзячны Пану Богу за св. п. спадарыню Рэгіну, якая была ахвярнай дабрадзейкай нашай парафіі. У сваіх малітвах просім Усемагутнага аб ласцы Неба і вечнай хвалы для яе, а для Вас – аб моцы, каб цярпліва перажыць гэтую заўчасную страту з любоўю да Пана Бога.

*Вернікі з касцёла Апекі НПМ у Дайлідках*

## КАТАЛІЦКІЯ СМІ БЕЛАРУСІ




**інтэрнэт-партал Касцёла ў Беларусі**

Апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп Антэ Ёзіч сустрэўся з намеснікам Міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь, Сяргеем Алейнікам. Падзея адбылася з нагоды ўручэння прадстаўніком папы Францішка копіі даверчых грамат.

Як паведамляе прэс-служба Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь, падчас сустрэчы былі абмеркаваны актуальныя пытанні двухбаковага парадку дня, пацверджана ўзаемная зацікаўленасць у актывізацыі беларуска-ватыканскага супрацоўніцтва. Між іншым, Сяргей Алейнік пажадаў арцыбіскупу Антэ Ёзічу актыўнай плённай працы ў мясцовым Касцёле.




**рэлігійны часопіс**

Бог, будучы свабодным у сваіх прадвызначэннях, ствараючы нас на ўласны вобраз і падабенства, надзяліў таксама дарам, якім ёсць свабода. Чалавек імкнецца да свабоды заўсёды і вельмі не любіць, калі хтосьці яго ў гэтым абмяжоўвае.

Бог шануе людскую свабоду, бо такімі нас хоча бачыць. Але мы вельмі часта імкнёмся абмежаваць свабоду Пана, што найбольш яскрава выяўляецца ў прэтэнзійнай малітве і прыпісванні Яму адказнасці за няшчасці і беды.... Мы свабодныя, але не ўмеем гэтым дарам карыстацца. Таму не супакоіцца сэрца чалавека, пакуль не спачне ў Богу.




**беларуская рэдакцыя**

Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч некалькі дзён правёў у Ватыкане. Іерарх прыбыў па запрашэнні Дзяржаўнага сакратарыята.

"Мы доўга размаўлялі пра складанасць сітуацыі ў Беларусі і ў мясцовым Касцёле. Таксама сустрэча была прысвечана пошуку шляхоў вырашэння сітуацыі, у якой знаходжуся сёння асабіста я, – зазначыў арцыбіскуп Тадэвуш. – Хачу сказаць, што Святы Пасад сапраўды прыкладае шмат намаганняў, каб праблема была вырашана. Спадзяюся, што наступныя крокі дапамогуць ва ўрэгуляванні складанага пытання".




**інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі**

Кс. Анджэй Ганчар выехаў на місіі ў Цэнтральнаафрыканскую Рэспубліку, у дыяцэзію Буар. Яго сардэчна прыняла супольнасць місіянераў, якія прыбылі з Польшчы.

Сёння важнейшай задачай для кс. Анджэя з'яўляецца вывучэнне мясцовай мовы санга. Ёй неабходна авалодаць у кароткі час, каб магчы цэлебраваць св. Імшу, спавядаць, рыхтаваць гамілію, мець зносіны з тутэйшымі жыхарамі.

**Актуальныя навіны, фота, відэа. Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця**; галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч**;
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**.
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4**; тэл. **(80152) 61-05-37**; **(8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: slowo.grodnensis@gmail.com; **http://www.slowo.grodnensis.by**. Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП «Гродзенская друкарня»**, ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 4623; тыраж 4700; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.